Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

19 – 25 ЛЮТАГА 1999 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА–РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 15000 РУБЛЁЎ
№8 (200)

АДНА ЗЯМЛЯ

ВАЛОЖЫН

## Вірус–падарожнік

Пік захворвання на грып у райцэнтры прайшоў. Штодзень меншае колькасць хворых. Аднак вірус перакінуўся на Івянец (за панядзелак звярнуліся да медыкаў 89 чалавек), Ракаў, Гародзькі.

На гэтым тыдні "каранціняць" школы раёна ў Багданаве, Дорах, Падбярэззі, Адамове, іншыя. Гарадскія школы заняткі аднавілі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

## Перасяленне заканчваецца

Да 21 лютага чыноўнікі райвыканкома павінны пераехаць (калі падлягаюць перасяленню) "на новыя кватэры". У будынку гарвыканкома размесцяцца старшыня з намеснікамі, некаторыя з аддзелаў. Іншыя зоймуць (ці занялі ўжо) плошчы падатковай інспекцыі.

У былым раённым будынку працуе ўжо цэнтр занятасці (I паверх), фінаддзел, Саветы (II), падатковая інспекцыя(III).

*Аддзел інфармацыі.*



*Галоўнае пры пераездзе – не згубіць дакументацыю.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ІВЯНЕЦ

## Задаволяць усіх

Жыхары мястэчка, што стаялі на чарзе на падключэнне тэлефона, хутка атрымаюць магчымасць патэлефанаваць родным, знаёмым, калегам. Раённы вузел электрасувязі вядзе работы па расшырэнні мясцовай АТС на 800 нумароў. *Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*

РАДАШКОВІЧЫ

## Наш рэгіён у лідэрах

У актавай зале ААТ "Белмастацкерамікі", што знаходзіцца ў мястэчку, прайшоў Савет канцэрна "Белмясцпром" (старшыня **Міхаіл Поўх**). На ім прысутнічалі кіраўнікі прадпрыемстваў прамога падпарадкавання, абласных упраўленняў, старшыні абкомаў прафсаюзаў.

Адзначана стабільная работа прадпрыемстваў нашага рэгіёна. Лідзіруюць па выкананні прагнозных паказчыкаў ААТ "Белмастацкераміка", маладзечанская фабрыка музінструментаў, смаргонскі ліцейна–механічны завод. *Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## Смешныя цэны – вялікія чэргі

Усе прамтаварныя магазіны Каапунівермага на гэтым тыдні гандлявалі канфіскаваным мытнікамі таварам: абуткам, ватовымі коўдрамі. А тры прадуктовыя – цукеркамі, алеем і мукой. Усё раскуплялася імгненна. Жаночыя боты–батфорты кітайскай вытворчасці з натуральнай замшы каштавалі 175 тысяч, карамель – 50 тысяч за кілаграм. *Наталля ШТЭЙНЕР.*



ЗДАРЭННІ

# «Жартуюць» гродзенцы

***СМАРГОНЬ. 11 лютага ў 8.30 раніцы (на жаль, з прычыны ранняй здачы газеты ў друкарню інфармацыя на трапіла ў мінулы нумар) увесь асабовы склад міліцыі горада быў падняты па трывозе. Прычынай паслужыў ананімны, як заўсёды, тэлефонны званок аб тым, што будынак Смаргонскага райвыканкома замініраваны. Незвычайнасць яго заключалася ў тым, што прагучаў ён на пульце пажарнай часці Гродна.***

Паведамленне адразу перадалі ў Смаргонь і праз некалькі хвілін райвыканком і сумежныя тэрыторыі былі ачэпленыя міліцыяй, пачалася эвакуацыя супрацоўнікаў выканкома.

У адсутнасць начальніка міліцыі кіраўніцтва аперацыяй узяў на сябе пампаліт УУС. З–за аддаленасці райцэнтра ад Гродна (300 км) і негатоўнасці да выезду групы размініравання (аўтамабіль не быў запраўлены) было прынята рашэнне выклікаць сапёраў з Мінска.

Нейкай панікі ў горадзе не адчувалася, цікаўным прахожым міліцыянеры тлумачылі, што праходзяць вучэнні. Хаця спецмашыны, што стаялі ля будынка, пераконвалі ў гэтым не надта. Служачыя райвыканкома паставіліся да здарэння спакойна, у асноўным, рушылі павандраваць па магазінах.

Старшыня Смаргонскага райвыканкома **Мікалай Кавалёў** на здарэнне адрэагаваў таксама стрымана:

– Знайшоўся час пабыць бліжэй да народа.

І паехаў у калгасы, а вярнуўся, калі пошукавыя работы ўжо заканчваліся.

Блакада райвыканкома працягвалася да 15 гадзін. Выбуховае прыстасаванне знойдзена не было.

*Андрэй ПАВЕРСКІ.*

КОНКУРС ДЛЯ ЧЫТАЧОЎ

# Складзі сабе прыгажуню

***МАЛАДЗЕЧНА. Пры зачыненых дзвярах выбіралі прыгажунь для фіналу конкурсу "Міс Маладзечна–99". У канцэртную залу музвучылішча, дзе праходзіў адбор, журы не пусціла ні балельшчыкаў, ні сваякоў канкурсантак. Каб не было з іх боку ўціску. Кожны ж лічыць "сваю" самай абаяльнай і найпрыгажэйшай.***













З трыццаці дзяўчат, якія падалі на ўдзел заяўкі, сямёра не прайшлі. Адна ці разгубілася, ці спалохалася – проста збегла. Астатнія імкнуліся паказаць сябе з лепшага боку.

Трэба было са сцэны крыху расказаць пра сябе. А потым пад музыку выйсці ўжо ў закрытым купальніку. Удзельніцы, у асноўным, – навучэнкі вучылішчаў, школьніцы. Былі і замужнія ледзі, хатнія гаспадыні.

Вось кароткія "самахарактарыстыкі" дзяўчат, дэвізы іх жыцця:

– Хачу стаць у жыцці патрэбным чалавекам. Няхай не першым, аднак і далёка не апошнім.

– Разлічваю заўсёды на свае сілы. Мару стаць спявачкай. І стану ёй.

– Хачу з'ездзіць у Італію, Францыю, Ватыкан. Перспектыва не адкрываецца перад тымі, хто за мару не змагаецца. Я змагаюся, нават калі сплю.

– Адкрыю сакрэт. Я – чарадзейка. Сама сабе шыю, таму часцяком пераўтвараюся. Кожная новая вопратка мяняе мой імідж.

– Прыгожая жанчына – цудоўная. А разумная – ідэальная. Я хачу быць і той, і другой. Але спачатку трэба мець грошы. Таму хутка паеду працаваць да Сашы Варламава.

– У нас дома вялізная сямейная бібліятэка. Мяне хвалюе, як скончу школу, бо (далей ідуць цытаты Бярнарда Шоў, Бальзака).

Яшчэ было: "Люблю мяккія цацкі", "Выдатна езджу на конях", "Захапляюся нямецкай паэзіяй", "Спяваю оперу".

Запомнілася такое:

– Да ўдзелу ў конкурсе падштурхнулі сябры – спрабуй, можа, каму з журы спадабаешся.

Напярэдадні фіналу "Міс Маладзечна–99" для чытачоў "РГ" прапануем конкурс. Вы, спадзяемся, знаўцы жаночай прыгажосці, таму паспрабуйце састыкаваць "верх" і "ніз" фіналістак. Той, хто атрымае 100%–ы вынік, будзе мець магчымасць разам з невялікай аўтабіяграфіяй бачыць сваё фота на старонках «РГ». Апошні дзень адпраўкі вашых лістоў – 27 лютага. Бо 28 – фінал.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

# Грып герояў не шануе

МАЛАДЗЕЧНА. У сярэдзіне месяца **грып у горадзе** дасягнуў піку. Толькі за другі тыдзень лютага зарэгістравана 2869 выпадкаў захворвання на грып і ВРЗ, сярод іх палову складаюць дзеці да 14 год. За 15 чысло зарэгістравана 687 выпадкаў, а за 16–е – яшчэ 802. Пяць чалавек шпіталізаваныя ў інфекцыйнае аддзяленне (таксічная форма грыпу). Такія ўзроўні захворваемасці чакаюцца яшчэ на працягу аднаго–двух тыдняў.

З мэтай раз'яднання дзяцей у арганізаваных калектывах распараджэннем гарвыканкома з 13 числа закрытыя на каранцін усе школы горада, пачатак заняткаў плануецца пры добрым эпідэміялагічным становішчы з 22 числа. У сельскіх школах гэтае пытанне вырашаецца ў кожным канкрэтным выпадку па прадстаўленні дырэктарамі звестак пра колькасць дзяцей, якія адсутнічаюць.

Пры праяўленні першых прыкмет захворвання не варта па–геройску ісці на работу, каб заразіць там калег. Выклікайце ўрача і выконвайце яго прадпісанні.

Зарэгістраваны адзін выпадак харчовага **атручвання батулізмам** у жыхаркі С. пасёлка Сасновы Бор. Прычынай атручвання паслужылі кансерваваныя грыбы. Узімку многія ўжываюць саленні ды марынаванні. Не забывайцеся, што звычайна знешніх прыкмет псавання такіх прадуктаў не выяўляецца. Па магчымасці, іх неабходна тэрмічна апрацоўваць, таксін батулізму пры кіпячэнні разбураецца.

Усё часцей у шэрагу прадпрыемстваў гандлю пачалі выяўляцца прадукты з **сышоўшымі тэрмінамі рэалізацыі**. Прадаўцы спасылаюцца на падзенне попыту з–за вялікага кошту. Аднак працягваюць рэалізоўваць недабраякасны прадукт па той самай цане, што і добры. Падобныя факты ўстаноўленыя ў магазінах №1 і 7 пасёлка Сасновы Бор, магазіне №2 калгаса імя Дзяржынскага (размешчаны па вуліцы Б. Хмяльніцкага ў Маладзечне), у дробнарознічным гандлі ДП "Стары замак" на рынку, кафетэрыі магазіна "Гасцінец" па вуліцы Будаўнікоў. Вінаватыя аштрафаваныя. Аднак пакупнікам варта звяртаць увагу на тэрміны рэалізацыі, указаныя на ўпакоўцы, у асаблівасці, на скорапсавальных прадуктах.

*Міхаіл ГРАБОЎСКІ, намеснік галоўнага ўрача РЦГіЭ.*

 



СТАРЫ АЛЬБОМ

# Выпрабаванні для ідэалаў



ВІЛЕЙКА. Сваю 80–ю вясну сустрэне сёлета жыхар вёскі Лёпаўшчына Ільянскага сельсавета, выпускнік Ільянскай польскай сельскагаспадарчай школы, былы аграном і брыгадзір мясцовага саўгаса "Асцюковічы" **Янка Каляда**.

Гэта пры яго непасрэднай дапамозе летам 1952 года у лясным масіве пад Вязынню ажыццяўлялася друкаванне, а затым распаўсюджванне антыбальшавіцкіх лістовак і газеты "Жыве Беларусь!", рэдагуемай яго сябрам і калегам па Ільянскім маслазаводзе, ураджэнцам вёскі Панцічы **Янкам Філістовічам**. Ні сумнавядомая Вілейская турма, ні гулагаўская ўхцінская "Нафташахта №1", ні 13–месячнае зняволенне ў аднаасобным казамаце "амерыканкі" з яе садысцкімі начнымі допытамі, ні іншыя цяжкія выпрабаванні, што выпалі на яго долю, не зламалі моцны характар гэтага чалавека, які застаўся верны ідэалам, прынесеным яго легендарным земляком.

*Алесь ЦАДКО.*

З НЕНАДРУКАВАНАГА

# Дзённік

*(Знойдзены ў дупле дрэва ла санаторыя «Сасновы Бор»)*

*Працяг.*

*6–ы дзень.* Не буду апісваць, як бавіў час з Элачкай у яе пакоі. Часам смяялася з мяне, што я невук у важнай, сардэчнай справе. Прапанавала адгадаць загадку, чаму падчас катастрофы карабля не загінулі п'яніца, студэнт, верны муж. Не ведаў адгадкі. Элачка здзівілася і сказала:

– Алкаголік не ўтапіўся таму, што яму мора па калена, студэнт – навучыўся плаваць на экзаменах, а верны муж таму, што ён дурань як пробка.

*7–ы дзень.* Балела з раніцы галава, згубіўся апетыт.

Элачка шчабятала без перапынку, ветліва, заманліва:

Кожны дзень у Радашковічы накіроўваецца аўтобус – у 15 гадзін 16 хвілін. Мілы, з'ездзім, заглянем ва ўнівермаг.

Элачка прымервала сабе новы касцюм, мяне прымусіла выбраць гальштук у клетку. Калі патрэбна было плаціць, Элачка спахмурнела:

– Забылася у санаторыі кашалёк з грашыма.

Не азмрочваць жа настрой сяброўкі–прыгажуні з–за гэтага. Я за пакупку заплаціў са сваёй кішэні. Купіў сабе гальштук, хоць іх дома столькі, што восенню завязваю мяхі з бульбай. Элачка яшчэ настаяла, каб купіў жонцы сувенір – керамічны кубак радашкоўскай фабрыкі, а ёй яшчэ прадмет, які рэклама называе "з крылышкамі". А калі ў торбе быў канъяк, у кішэні засталося што кот наплакаў. Думалася, што ў санаторыі Элачка верне кошт аплачанага мною моднага замежнага касцюма, а таксама міні–спадніцы, крылышкаў. Падміргнуўшы, Элачка спыталася ў мяне:

– Што такое міні–спадніца?

Не ведаў.

– Невук ты, мой саколік, – прамурлыкала яна. – Гэта такая спадніца, якая канчаецца раней, чым пачынаюцца ногі. Прадэманструю табе ў пакоі санаторыя. Толькі табе аднаму.

*8–ы дзень.* Спрабаваў далікатна, здалёку напомніць Элачцы, што на пакупку патрачаныя грошы (можа, здагадаецца і верне мне). А яна заспявала: "Калі ты маўчыш, чую твой голас, любы, а калі гамоніш, нічога ўжо не чуваць". Давялося прыкусіць язык і маўчаць пра той доўг. Добра, што перад паездкай у санаторый папрасіў краўца прышыць патаемную кішэнь у пінжаку. Некаторы рэзерв на ўсякі выпадак захаваўся ад усёвідушчага вока жонкі. Ах, за соладач трэба расплачвацца! І не малой сумай, ды хаця б не здароўем.

*9–ы дзень.* Купіў жэтоны, каб пазваніць дамоў. Пяць тых жэтонаў праглынуў ненажэрны тэлефонны апарат, толькі шосты дазволіў пачуць жончын голас. Стаў гаварыць сумна, амаль плачучы. Сказаў, што тых грошай, за якія збіраўся купіць падарункі ці абноўкі, няма, згубіў. Прасіў у каго–небудзь пазычыць ды прысылаць.

У бібліятэцы хацеў узяць кнігу "Мужчына – уладар жанчыны". Адказала бібліятэкар, што такой фантастычнай кнігі яшчэ не надрукавалі. Прачытаў у часопісе "Полымя" дзённікі Максіма Танка. Народны паэт пераклаў з польскай мовы:

Калі маладзейшым быў, дык быў вельмі горды,
Бо ўсе члены былі мяккі, толькі адзін цвёрды.
А сёння пастарэў і ўжо ў небаракі
Усе члены зацвярдзелі, толькі адзін мяккі.

*10–ы дзень.* Элачка! З яе аблічча сыходзіць якоесьці прамяністае, белае ззянне, яна нагадвае прыгожы брыльянт у промнях месяцавага святла. Як яна ўмее цалавацца, прытуліцца! Пра пакупку за мой кошт ні слова.

*11–ы дзень.* Хадзілі да фантана. У Элачкі праяўляецца імпэт, сіла, упартасць і добрая злосць. Заявіла, што калі адхілюся ад яе, пасябрую з іншымі жанчынамі, дык напіша жонцы маю характарыстыку, вядома, надуманую. Ведае мой адрас, а я яе не. Ад такіх яе слоў мяне кінула ў дрыжыкі. Няўжо так можа помсціць прыгожага выгляду жанчына? Няўжо яна як тыгрыца, львіца?

*12–ы дзень.* Зноў хадзілі да фантана, а потым доўга сядзелі ў яе пакоі. Пілі, закусвалі, была дэманстрацыя міні–спадніцы.

*13–ы дзень.* Ад Элачкі пачуў выказванне нейкага філосафа: "Над вамі аднойчы будзе смяяцца сябра, бо вы раней самі над ім смяяліся". Каб даказаць сваю любоў да Элачкі, хацеў выканаць любое яе жаданне, але яна сказала, што паверыла мне з першага погляду.

*14–ы дзень.* Былі на платных танцах. Доўга Элачка збіралася, сказала: "Для жанчыны вельмі важны стымул, каб было дзеля чаго апранацца". Плаўнай, грацыёзнай паходкай падышла да мяне і запрасіла на дамскі вальс. Жаданая, нябесная Элачка. Так шчыльна да мяне прытулялася, прыліпла, што п'яўка.

ВЫСТАЎКІ

# Бачыць, каб рухацца наперад



Галіна Сакалоўская.



У выставачнай зале.

ФОТА РАВІЛЯ ХАБІБАВА.

МАЛАДЗЕЧНА. У фае цэнтральнай гарадской бібліятэкі праходзіць выстаўка твораў мінчанкі **Галіны Сакалоўскай**. Яе работы з прыроднага матэрыялу (фларыстыка) нядаўна выстаўляліся ў нацыянальным музеі гісторыі і культуры РБ, Беларускім фондзе Рэрыхаў. Па ацэнках спецыялістаў, кошт работ даходзіць да 3 тысяч долараў. За межы Мінска Галіна выехала ўпершыню.

Аўтар, член Саюза мастакоў, працуе намеснікам дырэктара СШ №197.

– Фларыстыкай пачала займацца... з–за беднасці, – гаворыць Г. Сакалоўская, – у сталічным салоне ўбачыла кампазіцыю з кветак. Але не змагла купіць – дорага.

На выстаўцы прадстаўленая першая работа аўтара "Рукамі чалавечымі", дата – 1980 год. За 19 гадоў творчасці большая частка работ разышлася па прыватных калекцыях (таксама ў далёкае замежжа). Аднак нельга сказаць, што Галіна – "новы беларус". Шмат грошай ідзе на набыццё матэрыялу, асабліва на афармленне твораў. Да прыкладу, засушаныя матылькі ў рабоце "Ёсць толькі імгненне" спецыяльна прывезены з Бразіліі.

– Сярод наведвальнікаў (а іх вельмі шмат) мала мясцовых мастакоў, – гаворыць арганізатар выстаўкі, супрацоўніца мясцовага аддзялення беларускага фонду Рэрыхаў **Ларыса Пшанічная**. – Няўжо яны так раўніва ставяцца да "чужакоў"?

У кнізе водгукаў прачытаў: "Калі пабачыш вашыя работы, хочацца жыць і рухацца наперад".

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

# Вобразы мілыя роднага краю

***ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале Вілейкі праходзіць выстаўка мастака Івана Рыгоравіча Патапчука, удзельніка рэспубліканскіх выставак "Міншчына ардэнаносная", "Чарнобыль, боль, надзея", дыпламанта Дома народнай творчасці за ўдзел у выстаўках 1968, 1969 і 1971 гадоў.***

На выстаўцы прадстаўлена каля 40 жывапісных палотнаў і графічных работ, большасць з якіх прысвечаны Вілейцы і яе ваколіцам.

На адкрыцці выступіў ансамбль культурна–асветніцкага аб'яднання па сувязях з замежжам "Сябрына", у склад якога ўваходзяць настаўнікі і вучні САШМ Маладзечна (дырэктар **Людміла Васілевіч**).

*Альберт АЎЧЫННІКАЎ.*



КУЛЬТУРА

# Артысты–гімназісты

ВАЛОЖЫН. Спектакль "Бураціна" па матывах аднайменнай казкі А. Талстога паказалі днямі шасцікласнікі мясцовай школы– гімназіі са сваім класным кіраўніком **Кацярынай Дунаеўскай**.

Асабліва спадабаліся гледачам Бураціна (**Паша Супрончык**), Ліса Аліса (**Валя Бруй**), Кот Базіліо (**Гена Нікановіч**).

Клас–тэатр 6 "Б" – так можна назваць гэтую навацыю ў гімназіі.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*

АДУКАЦЫЯ

# Дзецям – стыпендыі, бацькам – лісты

АШМЯНЫ. 28 навучэнцаў з ПТВ–192, якія закончылі першае паўгоддзе навучальнага года на "4" і "5", атрымалі павышаную стыпендыю ў памеры 90% ад «мінімалкі».

Не засталіся незаўважанымі і іх бацькі. Ад кіраўніцтва вучылішча за добрае выхаванне дзяцей ім адправілі лісты–падзякі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАДАРОЖЖЫ

# Нясвіж і яго каралі Радзівілы



***І яшчэ адну старонку гісторыі перагорнем. Сёння гэта старажытны Нясвіж. Напэўна, цяжка ўявіць, але ў XVII – XVIII стагоддзях Нясвіж быў фактычна другой сталіцай Вялікага княства Літоўскага.***

Нясвіж перажыў шматлікія войны, як і ўся наша дзяржава. Аднак гэта не пашкодзіла гораду ў далёкія гады быць месцам, дзе спела і развівалася культура і асветніцтва. У гісторыю Нясвіжа цесна ўпляліся жыццё і дзейнасць Радзівілаў – прадстаўнікоў магутнага магнацкага роду. Менавіта яны і ўнеслі вялікі ўклад у развіццё культуры Беларусі.

Так, у першай палове XVI стагоддзя, у часы гаспадарання тут бліскучага дыпламата і дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага Мікалая Радзівіла Чорнага, працавала знакамітая Нясвіжская друкарня, у якой выдаваў кнігі на беларускай мове Сымон Будны – прадаўжальнік друкарскай справы Францішка Скарыны.

Яшчэ больших поспехаў дасягнуў Нясвіж, калі гаспадаром яго стаў сын Чорнага, Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка. Ён перабудаваў горад, запрасіўшы з Рыма знакамітага Яна Марыя Бернардоні. Гэта была другая палова XVI стагоддзя. Той палац, які і цяпер стаіць, як прыгажун сярод паркаў і азёраў Нясвіжа, дайшоў да нашага часу такі, якім яго пабудаваў Сіротка. Ён адкрыў калегію, пабудаваў тры мужчынскія кляштары, пры якіх працавалі школы. Яго жонка Альжбета Эўфімія была фундатарам пабудовы жаночага кляштара бенедыктынак, муры якога дажылі да нашых дзён. Сіротка выпрасіў у караля Стэфана Баторыя Магдэбургскае права для Нясвіжа і выкарыстаў яго прывілеі для карэннай перабудовы горада. Узвёў гарадскую ратушу.

Яна, за апошні час аднаўленая, і цяпер упрыгожвае Нясвіж, узвышаецца ў яго цэнтры. Фарны касцёл – цуд вялікага таленту Бернардоні – не мае сабе аналагаў у свеце. З усіх краёў ідуць сюды людзі, гатовыя стаць на калені.

Асоба Мікалая Радзівіла Сіроткі гістарычная і выключная. Не кожны з нас ведае, што менавіта ён паставіў свой подпіс з боку Вялікага Княства Літоўскага, калі падпісвалася Люблінская унія 1569 года. Царкоўную унію 1596 года таксама падпісаў Сіротка. Ён быў у складзе дэлегацыі ад Рэчы Паспалітай, якая ў 1573 годзе накіравалася ў Парыж, каб запрасіць французскага прынца Анры Валуа на польскі трон. Ён вітаў прыгажуню Маргарыту Наварскую, вядомую, як каралеву Марго.

За доўгія часы жыццё і дзейнасць Радзівілаў перапляліся з легендамі, таямнічымі і рамантычнымі.

Пра ўсё гэта вы не толькі пачуеце, калі зробіце вандроўку ў Нясвіж. У гэтай экскурсіі вам пакажуць іскрынку беларускай архітэктуры – Мірскі замак, раскажуць пра яго гаспадароў.

*Любоў КАРПОВІЧ.*



 

НА СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

# На Вілейшчыне кахаюць. І гэтага не саромеюцца

ВІЛЕЙКА. У раённай бібліятэцы на мінулыя выхадныя адзначалі Дзень закаханых (святога Валянціна). Запрасілі мясцовых артыстаў з Шылавічаў. А ступень закаханасці ў добраахвотнікаў вызначалі на практыцы.

Вядучая **Тарэза Закрэўская** прапанавала мужчынам па руках пазнаць сваіх жонак. Жонкам – па голасе мужоў. Гэта было відовішча. Стаіць жанчына з завязанымі вачыма. Па камандзе волаты (прычым, адначасова) называюць "яе" імя. Таццяны, Алены спрабуюць падысці на голас мужа і часцяком памыляюцца. Адна глядачка выдала амаль што аксіёму: хто парады мужа слухае, тая голас не толькі з шасці – са ста распазнае.

Асабліва гледачам спадабаўся інтымны конкурс. За 2 хвіліны муж павінен быў як мага больш зняць з сябе адзення (ці што на ім было) і надзець на жонку. А тая наадварот. У лепшым выпадку мужчыны заставаліся ў нацельных гарнітурах. А вось жанчыны паспявалі не толькі распрануцца і надзець "сваё" на мужа, але, каб не здымаць апошняе і тым самым не бянтэжыць публіку, здымалі ўпрыгожванні, чаплялі на сваіх. І яшчэ ў іх час заставаўся.

Муж і жонка на папяровых сэрцайках прызнаваліся адзін аднаму ў каханні. Запаўнялі анкеты (да прыкладу, любімыя стравы) і шукалі супадзенні.

Было весела і, напэўна, павучальна.

Перамаглі **Вераніка і Аляксей Юхнаўцы**. Паўгода, як яны ўзялі шлюб, і, можа, з намёкам, ім падарылі мяккую цацку – бегемоціка.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Загадчыца аддзела моладзі Вілейскага райвыканкома Таццяна Цітуленка з сувенірам. На ім удзельнікі гульні напісалі пажаданні арганізатарам і адзін аднаму.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

«РГ»–СТАТЫСТЫКА

## Зямля ва ўласнасці

СМАРГОНЬ. Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб праве ўласніка на зямлю", 1119 жыхароў горада і раёна выкупілі ў прыватную ўласнасць свае зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 344 гектары. Гэта 3,2% ад усёй плошчы, што знаходзіцца ў насельніцтва.

*Павел МАКЛЮК.*

БАНКІ ЎМАЦОЎВАЮЦЦА

## "Белаграпрамбанк" будзе з дахам...

АСТРАВЕЦ. Напрыканцы мінулага года ў мясцовым аддзяленні АКБ "Белаграпрамбанк" распачаліся рамонтныя работы: вырашана замяніць дах, які ў дажджлівае надвор'е працякае.

Гэтымі работамі займаюцца будаўнікі з астравецкага рамонтна–будаўнічага ўпраўлення №4.

Кіраўнік банка **Аляксандр Орсік** гаворыць, што сёлета на гэтым рамонт будынка банка завершаны не будзе. Ёсць планы, паводле якіх пройдуць рамонтныя работы і ў сярэдзіне будынка. Цяпер ідзе пошук арганізацыі, якая змагла б выканаць аддзелачныя работы на конкурснай аснове. Як прынята гаварыць, хутка, якасна і танна.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## ... і «Беларусбанк» таксама

ВІЛЕЙКА. Былы будынак універмага па вуліцы Вадап'янава ў ходзе рэканструкцыі колькі год глядзеў на плошчу Леніна пустымі вачніцамі.

Пасля таго, як памяшканне выкупіў Беларусбанк, яно пачало ператварацца на вачах. Спачатку ў будынак уставілі вокны з ПВХ, цяпер будуецца дах.

Да 400–годдзя горада будынак, трэба спадзявацца, набудзе сучасны выгляд.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ГРОШЫ

## Кожны народ годны сваіх грошай




– Грошы могуць уяўляць сабою гной, хаця гной зусім не грошы...

*К. Маркс ("Капітал", 1867 г.).*

***Мне не даводзілася бываць у ЗША, але ў жыцці і ў амерыканскім кіно я ніколі не бачыў скамечаных долараў. Гэта пацвярджаюць і тыя, каму давялося пабываць у Злучаных Штатах. Бо амерыканцы з павагай ставяцца да сваіх грошай.***

З павагай да іх ставімся і мы. Калі бярэш долары ў рукі, узнікае такое ўражанне, што перад кожнай пакупкай іх прасуюць. Амерыканцы прыдумалі добры спосаб, як трымаць грошы, каб яны не скамечыліся – іх скручваюць у трубачку і перацягваюць гумкай. А калі і ўбачыш на купюры невялікі штампік (слонік, зорачка), дык гэта ў амерыканцаў такі забабон: калі купюра са штампікам вернецца на працягу жыцця да таго, хто паставіў гэты знак, значыць, ён шчаслівы

Усё гэта ніяк не скажаш у дачыненні да нашых грошай. Бо аніякай павагі да беларускіх рублёў няма, іх нават завуць "зайцы", хаця звяры даўно зніклі, як некалі дыназаўры. А заяц, як ні круці, – гэта баязлівы маленькі звярок. Нашы разліковыя білеты выглядаюць, быццам бы іх памылі, потым выціснулі і забыліся папрасаваць. Але калі іх і мылі, дык у бруднай вадзе.

Я на практыцы даведаўся, што калі пералічыць 50 мільёнаў 5– і 20–тысячнымі купюрамі, дык, каб адмыць рукі, трэба намыліць іх як мінімум два разы мылам "Saveguard".

А ўжо што на нашых рублях пішуць: распісваюць стрыжні, ставяць суму, якая налічваецца ў пачку, запісваюць нумары тэлефонаў і нават пішуць запіскі з ужываннем нецэнзурных выразаў.

Выказванне рымскага гісторыка Святонія "Грошы не пахнуць" не адносіцца да нашых грошай, бо іх скарыстоўваюць нават у прыбіральні замест туалетнай паперы. Дробязь 100–200 рублёў за грошы не лічаць (рэшту такімі купюрамі найчасцей адмаўляюцца браць), як быццам мільён па 100 рублёў нечым адрозніваецца ад мільёна стотысячнымі.

Можа, калі мы (ад самага простага чалавека да прэзідэнта) будзем з павагай ставіцца да беларускіх рублёў, то і грошы адкажуць нам тым жа (гэта значыць, не будуць таннець кожны дзень).

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ГАНДАЛЬ

## Залатая кераміка

ІВЯНЕЦ. У магазіне "Саладка" кандытарскай фабрыкі знайшлося месца вырабам суседзяў – завода мастацкай керамікі. Сярод ваз, зуброў (якія добра разыходзяцца) стаіць керамічны падсвечнік за 14 мільёнаў рублёў.

Ён выклікае ў пакупнікоў здзіўленне.

– Не можа быць! – усклікаюць яны, як толькі дакладна падлічаць нулі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Тайнік для гарэлкі

ВІЛЕЙКА. Работнікі магазіна №9 калектыўна вырашылі прыхаваць гарэлку. Больш за 100 бутэлек "Крышталю" выцягнулі супрацоўнікі аддзела эканамічнай злачыннасці з–пад вітрын, вітрын–халадзільнікаў гандлёвай залы. Дзеля гэтага прыйшлося гэтыя вітрыны дэманціраваць.

Загадчыца магазіна Р. яшчэ перад прыходам камісіі па пераацэнцы вывезла 40 бутэлек, але ў касу за іх не заплаціла. Яшчэ 13 бутэлек схавала пад шафай у сваім кабінеце. Акрамя гарэлкі, прадаўцы прыхавалі рыбныя кансервы, лікёр, цыгарэты, муку.

Пры інвентарызацыі выяўленая нястача 12 мільёнаў рублёў. Пяцёра работнікаў магазіна аштрафаваныя на 2 мільёны. Па загадчыцы вырашаецца пытанне па завядзенні крымінальнай справы.

## Бульба з морквай для расіянаў

ВІЛЕЙКА. Работнікі ДАІ спынілі дзве гружаныя машыны з прычэпамі, "МАЗ" і "Шкоду–ЛіАЗ". Вадзіцелі, маладзечанцы, прад'явілі дакументы, якія быццам бы дазваляюць вываз за мяжу (у Расію) бульбы, морквы на 552 мільёны рублёў.

Пры больш дэталёвай праверцы дакументаў аддзелам ЭЗ дазвол аказаўся несапраўдным. Па рашэнні суда канфіскаваныя і груз, і аўтамашыны. Дадаткова кожны вадзіцель яшчэ аштрафаваны на 25 мільёнаў.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

## Як вызначым, так і заплацім

ВІЛЕЙКА. На пажар у лесацэху мясцовай ПМК–88 выехалі 8 спецмашын (выязджалі нават пажарныя з Маладзечна).

Цэх згарэў. А вось пілараму, склад гатовай прадукцыі (што знаходзіліся пад адным дахам) выратавалі. Прычына пажару звычайная – каратнула электраправодка.

– Цэх меў шматлікія парушэнні супрацьпажарнай бяспекі, – так нам сказалі ў пажнаглядзе.

Страты будуць плаціць са сваёй кішэні адказныя асобы ПМК. Праўда, яны і вызначаць памер гэтых страт.

*Аддзел інфармацыі.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 10.02 | 17.02 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 310 | 310 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | – | 1054 |
| Сасіскі | 1 кг | 340 | 330 |
| Селядзец | 1 кг | 284–290 | 270 |
| Рыс | 1 кг | 160 | 160 |
| Цукар | 1 кг | 125 | 125 |
| Грэчка | 1 кг | 120 | 120 |
| Алей | 1 л | 250 | 265–310 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 85 | 85 |
| Маянэз | 250 г | 60 | 60–75 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 340 | 340 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 100 | 100 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 75 | 85 |
| Лімоны | 1кг | 350 | 360 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 120 | 120 |
| Масла | 1 кг | 250 | 250 |
| Тварог | 1 кг | 140 | 150 |
| Малако | 1,5 л | 45 | 45 |
| Бульба | 1 вядро | 180–200 | 200 |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | 100 | 120 |

ГАНДАЛЬ

## "Tutti-Frutti" у Лошы

АСТРАВЕЦ. У пункце мытнага і пагранічнага кантролю "Лоша" адкрытая і дзейнічае крама бяспошліннага гандлю "Туці–фруці", уладальнікам якой з'яўляецца адна з мінскіх фірм. Тавары ў ёй можна набыць толькі за долары ці нямецкія маркі. Паліцы, у асноўным, напоўненыя разнастайнымі спіртнымі напіткамі, імпартнымі цыгарэтамі і парфумай.

Пакупнікамі, ў пераважнай большасці, з'яўляюцца літоўцы. Даволі высокі кошт тавараў (па беларускіх мерках) для іх, натуральна, усё адно з'яўляецца невысокім.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАЧНА ЕСЦІ

## Прыправа з Вілейкі

Гэтая прыправа носіць назву "смерць на ўзлёце": калі трохі перабольшыць з ёй, у роце гарыць так, што, здаецца, зараз вочы павылазяць. Затое ў малой колькасці з ёй можна з'есці і "чорта лысага", і іншы больш–менш прыдатны кавалак мяса.

Вялікую галоўку часнаку прапусціць праз прыладу для расціскання часнаку, пакласці ў місачку, дадаць па палове маленькай лыжкі чорнага молатага перцу і буйной солі, тры лыжкі (сталовыя) маянэзу, усё добра перамяшаць.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

| | |
|---|---|
| Маянэз | 250 г |
| Перац | 20 г |
| Соль | 1 кг |
| Часнок | вялікая галоўка |

## Селядцы
### ў воцатна–гарчычнай заліўцы

Аддзеленыя ад касцей селядцы вострага пасолу (пажадана, буйнейшыя) укладваюцца тонкімі скрылькамі на дно глыбокай селядзечніцы. Сюды ж укладваецца ікра селядцоў або малако. Затым дробна парэзанай зялёнай цыбуляй або тонкімі кольцамі рэпчатай цыбулі засыпаць усе селядцы. Зверху можна пасыпаць зялёным гарошкам і дробна пакрышанай варанай бульбай. Асаблівае значэнне мае заліўка: у палову шклянкі сталовага воцату дадаць маленькую лыжку цукровага пяску, дзве–тры маленькія лыжкі гатовай гарчыцы і наліць 1 см (па вышыні шклянкі) алею. Старанна перамяшаць і заліць селядзечніцу да берагоў. Даць пастаяць паўгадзіны. Падаваць з гарачай варанай бульбай.

| | |
|---|---|
| Селядцы вострага пасолу | 1-2 шт. |
| Цыбуля свежая | 50 г |
| Зялёны гарошак | 50 г |
| Халодная вараная бульба | 50 г |
| Воцат сталовы | 100 г |
| Цукар | 1 мал. л. |
| Гарчыца | 2 мал. л. |
| Алей | 30 г |

## Бульба з мясам
### у гаршчочках

Бульбу рэжам саломкай, крыху абсмажваем яе на алеі, каб яна падрумянілася. На дно керамічных гаршчочкаў (маленькіх) або керамічнага гаршчка (вялікага) наліваем крыху вады, затым выкладваем бульбу, солім яе, на яе абсмажаныя з цыбуляй сасіскі (калі ёсць мяса – то мяса), затым грыбы (калі ёсць, а не – дык можна і без іх), таксама абсмажаныя з цыбуляй. Зверху кладзем сталовую лыжку смятаны ці маянэзу і ставім у духоўку прыкладна на гадзіну пры тэмпературы 150 градусаў.

<u>На адзін гаршчочак:</u>

| | |
|---|---|
| Бульба | 2-3 шт. |
| Сасіскі | 1-2 шт. |
| Цыбуля | 1/2 шт. |
| Смятана (маянэз) | 2 ст. л. |
| Грыбы | 2 ст. л. |

*Наташа ГАМОЛКА.*

*Футбол*

# Мяркуецца вакансія: выканаўчы сакратар

МАЛАДЗЕЧНА. У сераду на чарговым пасяджэнні рэгіянальнай федэрацыі горада і раёна заслухалі прадстаўнікоў мясцовых футбольных каманд.

У "Маладзечне" задаволеныя, што распачалі перадсезонную падрыхтоўку; на гэты момант прэтэнзій да гарадскіх уладных структур не маюць, але ў будучым, натуральна, спадзяюцца на большую падтрымку.

Кіраўніцтвам раёна ўжо адобраны каштарыс расходаў на "Забудову", праўда, дэпутаты не могуць яго зацвердзіць, бо не разглядаўся пакуль і бюджэт. Беразінскі "Металург", хутчэй за ўсё, возьме старт у абласным чэмпіянаце, бо ёсць верагоднасць, што яго ўключаць тут толькі ў другую лігу, а значыць няма чаго губляць час, трэба выбірацца ў мацнейшую, першую.

Распрацавана палажэнне аб чэмпіянаце горада і раёна. І там, і там, напэўна, згуляюць у два кругі з раз'ездамі на працягу летніх месяцаў не больш, чым восем каманд. Галоўная ўмова для ўдзельнікаў - мець свой стадыён. Гараджанам у гэтым плане будзе цяжэй, але ж ёсць школьныя "паляны" і можна пастарацца іх добраўпарадкаваць. А чыгуначнікі, напрыклад, ужо будуюць свой стадыён.

Актыўна ідуць справы па ўтварэнні юрыдычнай асобы, увядзенні штатнай пасады выканаўчага сакратара, арганізацыі клуба балельшчыкаў. На паперах наша федэрацыя будзе філіялам Мінскай абласной.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

# ФК "Маладзечна": навіны



*Першыя трэніроўкі.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

У камандзе чарговае папаўненне. Трэніруюцца ў яе складзе галкіпер **Вадзім Котлер** (1975 г. н.) з старадарожскага "Будаўніка" (ён, дарэчы, знаходзіўся на праглядзе ў фарм–клубе маскоўскага "Спартака"), абаронцы **Павел Сядун** (1974 г. н.) з "Граніта" (Мікашэвічы) і **Андрэй Цыбулька** (1974 г. н.) з "Камунальніка", паўабаронцы **Валерый Калядчык** (1969 г. н.) таксама са слонімскага клуба і **Аляксей Катарген** (1976 г. н.) з віцебскага "Лакаматыва–2".

Ад паслуг **Паўла Лутовіча, Аляксандра Андросіка** і **Дзмітрыя Дрожы** вырашылі адмовіцца. Не трэніруецца ў камандзе і **Валерый Гружэўскі**. **Віталь Макрыцкі** будзе гуляць за "Забудову".

"Маладзечна" правяло першы матч на вялікім полі ў Жодзіне супраць мясцовага "Тарпеда" з першай лігі. Лік 1:3. Гол забіў **Павел Рыжэўскі**, які правёў за гэтую каманду пяць матчаў у нашай мацнейшай лізе падчас самага першага суверэннага чэмпіянату (1992 год). ФК "Маладзечна" выступаў у наступным складзе: Воўкаў, Сінкавец, Дрожа, С. Кабельскі, Т. Шамшорык, Міронччык, Лукін, Вайцяховіч, Бычкоўскі, Вольскі, Андросік. На замену выходзілі Лутовіч, Макрыцкі, Гераська, Адо, Рудкоўскі, Рыжэўскі.

18 лютага распачынаецца турнір у Мастах з удзелам мясцовага "Нёмана" з другой лігі, бярозаўскага "Кераміка" з першай лігі, прыедуць таксама польскі клуб "Хетман" (Замосць) з другога дывізіёна і наша "Маладзечна". З–за грыпу ў Маладзечне засталіся **Марк Адо** і **Руслан Лукін**. **Павел Рыжэўскі** і **Віталь Бычкоўскі** паехалі ў Гродна ў складзе юнацкай зборнай Беларусі на збор.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

**P. S.** ***Заўтра ў варатара Сяргея Воўкава вяселле. Рэдакцыя "РГ" жадае яму шчасця ў сямейным жыцці.***

*Міні-футбол*

# Не сустрэліся ў фан-лізе, дык згуляем дома

***МАЛАДЗЕЧНА. У мінулы ўік-энд спартыўная зала палітэхнікума прымала занальны турнір чэмпіянату Мінскай вобласці. Разыгрываліся дзве пуцёўкі на фінал, што праз месяц, відаць, адбудзецца ў Барысаве. Спачатку восем каманд былі разбіты на дзве групы. Прадстаўнікі нашага рэгіёна сустракаліся між сабою ў двух матчах.***

**ЗЛМК (Маладзечна)-Валожын 3:2**

**РАМАС (Мал. раён)-Мядзел 14:2.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | ЗЛМК (Мал.) | 3 0 0 | 16-7 | 9 |
| 2. | Дзяржынск | 2 0 1 | 27-15 | 6 |
| 3. | Мінскі раён | 1 0 2 | 12-18 | 3 |
| 4. | Валожын | 0 0 3 | 8-23 | 0 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Чэрвень | 3 0 0 | 23-9 | 9 |
| 2. | РАМАС (Мал. р–н) | 2 0 1 | 22-6 | 6 |
| 3. | Заслаўе | 1 0 2 | 13-18 | 3 |
| 4. | Мядзел | 0 0 3 | 10-35 | 0 |

Па два лепшыя калектывы ўтварылі фінальную пульку. Сюды аўтаматычна перанеслі вынікі іх вочнай сустрэчы. Затым каманды двойчы згулялі з прадстаўнікамі іншай падгрупы.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | ЗЛМК (Мал.) | # | 10:5 | 4:4 | 6:2 | 2 1 0 | 20-11 | 7 |
| 2. | Чэрвень | 5:10 | # | 3:1 | 9:5 | 2 0 1 | 17-16 | 6 |
| 3. | РАМАС (Мал. р–н) | 4:4 | 1:3 | # | 10:8 | 1 1 1 | 15-15 | 4 |
| 4. | Дзяржынск | 2:6 | 5:9 | 8:10 | # | 0 0 3 | 15-25 | 0 |

Галоўны сакратар турніра **Анатоль Ішчанка** сказаў, што ўсе матчы з удзелам ЗЛМК І РАМАСа выклікалі зацікаўленасць гледачоў. Асабліва адметнай стала іхняя сустрэча паміж сабой. Беразінцы вялі па ходзе гульні 3:1 і 4:2, але пад заканчэнне капітану ЗЛМК **Ігару Шыяну** ўдалося забіць два галы і зраўняць лік.

У складзе пераможцаў (трэнер **Іван Хоміч**) вылучаліся варатар **Аляксей Цярэшка**, палявыя **Ігар Шыян, Аляксандры Субач**, **Лепеш**, **Страх** і **Невядомскі**, **Сяргей Капцюг**, **Валерый Мініч**, **Уладзімір Багіна**.

Чэрвенцы перамаглі РАМАС за кошт удалай гульні варатара. Былі нават падазрэнні, што гэта падстаўны гулец – маўляў, выступае за адзін з клубаў чэмпіянату краіны, таму не мог па правілах гуляць на вобласці.

У складзе падапечных **Канстанціна Харламава** можна адзначыць варатара **Сяргея Будрыка**, палявых **Андрэя Жукоўскага**, **Аляксандра Макея**, **Вячаслава Ваўчка**, **Канстанціна Станкевіча**, **Андрэя Лявончыка**.

А лідэрам дзяржынцаў быў **Алег Дулуб**. Той самы, якога мы добра памятаем па выступленнях за "Маладзечна".

*Міжсезонне*

# Сяброўскае дэрбі

ЧЫСЦЬ. Два тыдні таму мясцовая "Забудова" згуляла супраць хлапцоў 1981 г. н. са сталічнай "Змены" ўнічыю 1:1. Гол забіў **Сяргей Рыгаровіч**.

У мінулыя выхадныя на стадыёне маладзечанскай СШ №5 чысцінцы сустракаліся са "Смаргонню", якая праводзіла свой першы сёлетні матч на вялікім полі. На два галы гаспадароў, што забілі **Дзмітрый Касцюкевіч** (47 хв., пенальці) і **Мікалай Мятліцкі** (57 хв.), госці адказалі трапным ударам **Вадзіма Максіменкі** перад самым фінальным свістком. Дарэчы, гэты футбаліст не сваяк свайго аўтарытэтнага цёзкі па прозвішчы **Дзмітрыя**.

Распачынаецца Кубак федэрацыі Мінскай вобласці. Восем каманд спачатку згуляюць у дзвюх групах, а потым адбудуцца паўфіналы і фінал. Заявіліся ў асноўным сталічныя калектывы з ніжэйшых ліг і са спартыўных школ. І "Забудова".

Яе галоўны трэнер **Аляксандр Гармаза** гаворыць, што пакуль невядома, якія будуць сапернікі па групе другой лігі. Магчыма, многія адмовяцца ад удзелу, бо федэрацыя ўстанавіла вялікі стартавы ўзнос – каля 550 мільёнаў рублей. Летась было разоў у пяць менш.

Абедзве каманды з нашага рэгіёна на плаву павінны ўтрымацца, праўда, кіраўнік смаргонцаў **Сяргей Новік** лічыць, што яго клуб, відаць, не здолее адразу аддаць такія грошы, таму будзе прасіць растэрміноўку на 4-5 месяцаў.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

# Ветэранскія стасункі

***МАЛАДЗЕЧНА. Тыднем раней на той жа самай пляцоўцы высвятлялі адносіны ветэранскія каманды таксама ў рамках "зоны" абласнога першынства. Гулялі саракагадовыя спартсмены і старэйшыя. Магло ў камандзе быць трое ўдзельнікаў 1960-63 г. н. Вось што з гэтага атрымалася.***

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Маладзечна | # | 8:6 | 9:4 | 8:1 | 3 0 0 | 25-11 | 9 |
| 2. | Маладзеч. раён | 6:8 | # | 2:2 | 13:0 | 1 1 1 | 21-10 | 4 |
| 3. | Вілейка | 4:9 | 2:2 | # | 12:1 | 1 1 1 | 18-12 | 4 |
| 4. | Валожын | 1:8 | 0:13 | 1:12 | # | 0 0 3 | 2-33 | 0 |

Гаспадары (трэнер **Анатоль Ішчанка**) перамаглі і будуць удзельнічаць у фінальным турніры, што з 26 па 28 сакавіка таксама пройдзе ў Маладзечне. Лепшым у іх складзе быў **Уладзімір Галубко**. Ён і забіў больш за астатніх - 11 галоў. Дзесяць разоў вызначаўся **Леанід Лявончык** з каманды раёна. Вілейчанін **Аляксандр Пачанкоў** шэсць разоў крыўдзіў варатароў сапернікаў.

Летась мацнейшымі ў вобласці былі прадстаўнікі Вілейкі, але сёлета вымушана склалі свае паўнамоцтвы.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Баскетбол*

# Дзіцячая баскетбольная ліга



МІНСК. Сёлета праводзяцца цікавыя пробныя спаборніцтвы для юнакоў 1985-86 гадоў нараджэння (вучні 7-8 класаў), нешта накшталт "Хрустальнага мяча" ў футболе. Афіцыйная назва: першынство Рэспублікі Беларусь-"Дзіцячая баскетбольная ліга".

Сярод дванаццаці каманд ажно чатыры з нашага рэгіёна. Умоўна калектывы былі разбітыя на тры групы. "А": Віцебск, Магілёў, Маладзечна, Смаргонь. "В": Асіповічы, Бяроза, Вілейка, Жлобін. "С": Барысаў, Валожын, "Аўтазаводзец" (Мінск), СДЮШАР-10 (Мінск). Спачатку яны змагаліся паміж сабою ў Маладзечне, Асіповічах і Барысаве. Потым сустракаліся "крыж на крыж" у Магілёве ("А" і "В"), Мінску ("В" і "С"), Смаргоні ("А" і "С"). Такім чынам, кожная каманда згуляла па адзінаццаць матчаў.

Найлепш з нашых выступілі смаргонцы (трэнер **Валерый Юрчанка**). У Маладзечне яны перамаглі гаспадароў з красамоўным лікам 64:33 і віцяблян, прайгралі магіляўчанам. У Магілёве атрымалі чатыры перамогі над прадстаўнікамі групы "В". Нарэшце, дома перайгралі валожынцаў і Смаргонь-2, што замяніла не прыехаўшых барысаўчан. Саступілі абодвум сталічным калектывам. Восем перамог, 19 ачкоў і чацвертае месца. Дарэчы, ачкі налічваюцца па традыцыйнай схеме: 2 за перамогу, 1 за паражэнне, 0 за непрыезд. Цяпер у Мінску з 10 па 12 сакавіка пройдуць спаборніцтвы лепшых дружын за 1-4 месцы з улікам раней набраных ачкоў. Будуць там яшчэ "Аўтазаводзец" (11 перамог, 22 ачкі), Магілёў (10, 21), СДЮШАР-10 (9, 20). Пасля адбудуцца паўфінальныя матчы паміж першым-чацвертым, другім-трэцім калектывамі і фінал. Падчас апошняга, дамашняга тура камандай кіраваў **Сяргей Дурэйка**. Ён адзначыў добрыя дзеянні такіх хлопцаў, як **Дзмітрый Воўк, Дзмітрый Палавец, Ягор Уніцкі.**

Вілейчане і маладзечанцы атрымалі толькі па дзве перамогі (па 13 ачкоў), а валожынцы - адну (12). Разам з баскетбалістамі Барысава (1, 8 ачкоў пасля непрыезду) разыграюць своеасаблівае першынство Мінскай вобласці ў той жа тэрмін 10-12 сакавіка ў Маладзечне. Канкрэтна гэта будзе турнір за 9-12 месцы.

Вілейчане ў Мінску перайгралі Барысаў і Валожын. Гуляюць толькі хлопцы з СШ №4, настаўнік фізкультуры якой **Валерый Купцэвіч** іх і трэніруе. Як ён расказаў, ні на адзін з выездаў не ўдалося сабраць мацнейшы склад, з-за чаго, напрыклад, саступілі ў Магілёве два ачкі віцяблянам і чатыры маладзечанцам. Лепшы гулец **Міхаіл Радчанка** прапусціў два выезды. Аднойчы хварэў, а ў другі раз не адпусцілі бацькі - знайшлі ў дзённіку тройку. Можна адзначыць **Аляксандра Лапко**, **Аляксея Хмарэнку** і **Аляксандра Садоўскага**.

Маладзечанцы (трэнеры **Юрый Бядрыцкі** і **Уладзімір Клямяціч**) ў Магілёве абыгралі Вілейку, а ў Смаргоні другую мясцовую каманду, якая замяніла, нагадаю, барысаўчанаў. Там жа толькі адно ачко саступілі валожынцам. Добра праявілі сябе **Георгій Крукаў** і **Аляксей Ціхановіч**.

Гэта і была адзіная перамога каманды Валожына (трэнер **Леанід Хвядчэня**). Вызначаўся ў іх **Анатоль Антонаў**.

Калі ўлічыць толькі вочныя сутрэчы каманд рэгіёна, дык смаргонцы маюць тры перамогі, а астатнія па адной.

# Адкрыты Кубак у дарожнікаў

ВАЛОЖЫН. На адкрыты турнір за Кубак раёна, што прайшоў ў мінулыя выхадныя, тут чакалі гасцей са Смаргоні, Нясвіжа і Заслаўя, але прыехаць ўдалося толькі апошнім. Супрацьстаялі ім чатыры мясцовыя каманды. Гулялі па кругавой сістэме.

У фінальных паядынках сустрэліся: (за трэцяе месца) Валкамтранс-1—СШ №1 63:39, (за першае месца) ДРБУ-167—Заслаўе 81:42. Пятымі аказаліся "другія" валкамтрансаўцы.

Прызамі спорткамітэта для лепшых гульцоў узнагароджаныя **Дзмітрый Чэрнік** (ДРБУ-167), **Сяргей Матусевіч** (Заслаўе), **Ігар Купцэвіч** (В/к/т-1).

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## ГАРАСКОП 22 – 28 ЛЮТАГА

**АВЕН (21.03–20.04)**
Добрыя дні 22–25. Будзеш вырашаць пытанні, звязаныя з тваім дабрабытам.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Добры дзень 22, важны 24. Чакай змен у сямейных адносінах.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Добрыя дні 26, 27. Рэалізуй свае праекты і выкажы ўсе меркаванні.

**РАК (22.06–23.07)**
Важныя дні 23, 24. У цябе будзе творчы ўздым.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Кепскі дзень 22. Асобы з–пад знакаў Блізнятаў, Дзевы і Стральца адыграюць важную ролю ў тваім жыцці.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Важны дзень 27. Будзеш шмат думаць пра асабістае жыццё.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Кепскі дзень 28, важны 23. Змена фінансавых планаў прынясе табе большы даход.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Кепскія дні 22–25. У сям'і будзе таварыская атмасфера.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Добрыя дні 23–26, важны 27. У выхадныя дні знайдзі час для адпачынку.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Важны дзень 25. Асалода ад гаворкі з новым знаёмым.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Добрыя дні 24–28. Прыцягнеш да сябе асоб з–пад знакаў Казярога, Рака і Вадалея.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Добрыя дні 22, 23, важны 25. Ідэальныя стасункі з каханым.

